ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 49 (1583) | Пятніца, 23 чэрвеня 1961 года | Цана 4 кап.

## НЯХАЙ ПАНУЕ МІР НА ЗЯМЛІ!

У ЧОРА споўнілася дваццаць год з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Гэтая дата адгукнулася ў сэрцах мільёнаў, што былі ўдзельнікамі самаахвярнай барацьбы савецкага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Гэтая дата адгукнулася і ў сэрцах юных, маладых, што ўжо ўзгадаваліся пад мірным небам Радзімы, пасля таго, як змоўклі гарматы.

Гэтая дата напомніла ўсім людзям: — Будзьце пільнымі! Беражыце мір! Не дайце паўтарыцца трагедыі, што забрала мільёны жыццяў, што прынесла чалавецтву незлічоныя пакуты.

«Сёння, у дваццатую гадавіну з дня вераломнага нападу гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз,— гаварыў таварыш М. С. Хрушчоў у сваёй прамове на сходзе прадстаўнікоў грамадскасці Масквы 21 чэрвеня 1961 г.,—нашы думкі звяртаюцца да тых, хто аддаў сваё жыццё за свабоду і незалежнасць вялікай Савецкай Радзімы. Ніколі не згладзіцца з памяці народа вялікі подзвіг слаўных воінаў Савецкай Арміі, Ваенна-Марскога Флоту, доблесных партызан і партызанак, якія загінулі смерцю храбрых у баях супраць фашысцкіх захопнікаў. Мы вечна будзем памятаць аб мільёнах мірных савецкіх людзей, якія загінулі ў гэтай страшнай вайне. У нашай краіне няма такой сям'і, якая не страціла б мужа або сына, брата ці бацьку, дачку або сястру».

Вялікая Айчынная вайна пачалася ў ходзе другой сусветнай вайны, спароджанай супярэчнасцямі сучаснага манапалістычнага капіталізму і развязанай германскімі імперыялістамі.

У той час Германія была моцнай у эканамічных і ваенных адносінах дзяржавай. Гэтую моц яна набыла дзякуючы пасобніцтву амерыканскіх, англійскіх і французскіх манаполій, якія разлічвалі знайсці ў асобе германскага імперыялізму сілу, здольную разграміць першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву, задушыць міжнародны рабочы і камуністычны рух. Але палітыка патурання і змовы з агрэсарам павярнулася ўрэшце супраць тых, хто яму дапамагаў узбройвацца. Англія, ЗША, Францыя вымушаны былі пайсці на супрацоўніцтва з намі, каб выратаваць уласнае існаванне. Германскі фашызм прагнуў сусветнага панавання. Ён занявольваў адну за другой краіны Еўропы.

22 чэрвеня 1941 года германскі фашызм рынуўся на савецкую зямлю. Ён нёс смерць і знішчэнне. Запалалі нашы гарады і сёлы. Танкі з чорнай свастыкай няшчадна дратавалі збажыну на палях, якую так дбайна вырошчвалі калгаснікі. Знішчыць дзесяткі мільёнаў савецкіх людзей, расчляніць нашу Радзіму, ператварыць яе ў калонію — вось якая мэта была ў гітлераўскай Германіі.

Над Савецкай краінай навісла вялікая небяспека. Гэта было выпрабаванне, якога раней ніколі не ведала гісторыя.

У самых цяжкіх умовах, выкліканых нечаканасцю нападу ворага, нашымі няўдачамі на першым этапе ваенных дзеянняў і часовай стратай велізарнай тэрыторыі, захопленай гітлераўцамі, савецкі народ пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі здолеў мабілізаваць сілы для адпору захопнікам, эвакуіраваць у тыл тысячы прамысловых прадпрыемстваў, арганізаваць зладжаную ваенную гаспадарку, рэзка павялічыць вытворчасць узбраення, рашуча павярнуць ход вайны ў сваю карысць і дабіцца поўнай перамогі над ворагам.

Савецкі народ праявіў сапраўдную стойкасць, веліч духу, палымяны сацыялістычны патрыятызм. У імя перамогі над ворагам савецкі народ без ваганняў пайшоў на суровыя выпрабаванні і вялікія ахвяры. Гераічна змагаліся воіны на фронце. Самаахвярна працавалі рабочыя на заводах, калгаснікі на палях. На тэрыторыі, часова захопленай гітлераўцамі, разгарнуўся магутны партызанскі рух. У адзіным імкненні перамагчы жылі і змагаліся савецкія людзі. Гэта быў масавы гераізм. Гэта быў гераізм усяго народа, які вынес на сваіх плячах асноўны цяжар другой сусветнай вайны, каму належыць рашаючая роля ў разгроме фашысцкай Германіі і яе саюзнікаў.

Перамога Савецкага Саюза была глыбока заканамерная, яна вынікала з карэнных пераваг сацыялістычнай сістэмы.

Перамога Савецкага Саюза была сусветна-гістарычная, яна прывяла да ліквідацыі фашысцкіх парадкаў у Германіі і ў заняволеных ёю краінах Еўропы. Галоўным вынікам другой сусветнай вайны з'явілася карэннае змяненне суадносін сіл у карысць сацыялізма. Перамагла сацыялістычная рэвалюцыя ў Кітаі і ў радзе іншых краін. Узнікла сусветная сістэма сацыялістычных дзяржаў. На новую, больш высокую ступень узняўся рабочы і камуністычны рух ва ўсім свеце. З нябачанай сілай разгарнулася нацыянальна-вызваленчая барацьба народаў каланіяльных і залежных краін.

Мінаюць гады, усё больш і больш аддаляюцца, адыходзяць у гісторыю падзеі суровай вайны, але не меркне святло нашай вялікай перамогі. Памяць народная беражэ легенды і былі аб гераічных подзвігах сыноў і дачок Айчыны. Растуць новыя і новыя пакаленні моладзі, яна пазнае праўду аб Вялікай Айчыннай вайне ад сваіх бацькоў, з твораў літаратуры і мастацтва, пазнае глыбокі сэнс самаахвярнага служэння Радзіме. І немагчыма перабольшыць таго сапраўды невымернага значэння баявых традыцый, гераічных подзвігаў народа для справы камуністычнага выхавання падрастаючых пакаленняў. Немагчыма перабольшыць значэння твораў літаратуры і мастацтва, у якіх праўдзіва, у высокамастацкай форме адлюстравана гераічная барацьба савецкіх людзей супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Савецкая літаратура і мастацтва заўсёды былі моцныя сваім непарыўным адзінствам з народам. У іх агульныя ідэалы, агульныя мэты. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны савецкія літаратары і дзеячы мастацтва ўключыліся ў барацьбу з ворагам. На перадавой лініі разам з салдатамі можна было ўбачыць і пісьменніка, і мастака, і кінааператара. У сваіх творах яны ўслаўлялі гераізм савецкіх воінаў, натхнялі іх на подзвігі, паказвалі самаадданую працу народа, які забяспечваў фронт усім неабходным.

Вялікая Айчынная вайна нарадзіла велізарную літаратуру, велізарную скарбніцу твораў мастацтва, у якіх адлюстраваны ратныя старонкі гісторыі Савецкай Радзімы. Гэтая скарбніца няспынна папаўнялася ў пасляваенныя гады, па свежых слядах вялікіх падзей. Папаўняецца яна і цяпер. Гістарычныя рашэнні XX і XXI з'ездаў КПСС, а таксама ліквідацыя вынікаў культу асобы спрыялі таму, што ў адлюстраванні Вялікай Айчыннай вайны адкрыліся новыя перспектывы. Галоўная адметная рыса лепшых твораў аб Вялікай Айчыннай вайне заключаецца ў тым, што ў іх гераізм савецкага чалавека паказаны як высокае патрыятычнае пабуджэнне, як свядомае самаахвяраванне ў імя камуністычных ідэалаў, што аўтары гэтых твораў імкнуліся падаць шырокія карціны, шырокія далягляды.

У сувязі з гэтым нельга не заначыць, што ў апошні час з'явіліся асобныя творы аб вайне з вузкімі гарызонтамі, з героямі, чый унутраны свет абмежаваны і невыразны, творы, дзе якраз занядбаны той сапраўдны гераічны пачатак, які ўласцівы нашым лепшым мастацкім здабыткам.

Вядома, што як ні шмат у нас створана кніг і твораў мастацтва аб Вялікай Айчыннай вайне, але гэтая тэма не вычарпана. Нашы пісьменнікі і мастакі не раз яшчэ будуць звяртацца да гэтай натхняючай тэмы. І несумненна, што новыя поспехі будуць заваяваны якраз на шляху глыбока праўдзівага паказу гераічнага, на шляху высокамастацкага асэнсавання з'яў і падзей ваеннага часу.

Даўно адгрымела вайна. Яна дала памятныя, павучальныя ўрокі аматарам агрэсіі. Аднак жа такая ўжо сутнасць манапалістаў, што яны не суцішаюцца. Тыя ж самыя рэакцыйныя сілы капіталістычных краін, вінаватыя ў развязванні другой сусветнай вайны, не адмовіліся ад сваіх варожых чалавецтву планаў, не склалі зброі. Амерыканскія імперыялісты разам са сваімі саюзнікамі стварылі гіганцкі апарат вайны. Яны арганізавалі агрэсіўныя блокі і мноства ваенных баз вакол граніц Савецкага Саюза і іншых сацыялістычных краін. Яны накапліваюць велізарныя запасы ядзерна-ракетнай зброі. Яны зноў садзейнічаюць адраджэнню прагнага германскага імперыялізму.

Але сілы міру сёння непараўнальна больш моцныя, чым гэта было дваццаць год назад. Сёння ёсць магутны лагер сацыялізма. Сусветная сістэма сацыялістычных краін мацнее з кожным годам і ператвараецца ў рашаючы фактар развіцця чалавечага грамадства. Сёння ва ўсім свеце шырока разгарнуўся рух прыхільнікаў міру. Савецкі Саюз ідзе ў авангардзе змагароў за мір, за мірнае суіснаванне дзяржаў з розным грамадскім ладам, за нацыянальную незалежнасць і сацыяльны прагрэс, за далейшае згуртаванне вялікай садружнасці сацыялістычных краін.

«Мы, камуністы,—падкрэсліў таварыш М. С. Хрушчоў у сваёй прамове на сходзе прадстаўнікоў грамадскасці Масквы 21 чэрвеня 1961 г.,—верым у перамогу вялікіх ідэй марксізма-ленінізма, у імя якіх, не шкадуючы ні сіл, ні жыцця, савецкія людзі змагаліся ў гады другой сусветнай вайны. І іменна таму, што мы верым у свае ідэі, мы выступалі і выступаем за мір і дружбу паміж народамі, змагаемся за ўсеагульнае раззбраенне».

Савецкі народ заняты стваральнай працай па выкананню сямігадовага плана. Адзначаючы дваццатую гадавіну Вялікай Айчыннай вайны, шануючы памяць мільёнаў сваіх сыноў і дачак, што загінулі ў бітвах з фашызмам, савецкі народ рашуча выступае супраць прошукаў агрэсараў. З ім салідарны ўсе простыя людзі свету. Яны патрабуюць:

— Не дапусцім новай імперыялістычнай бойні! Няхай пануе мір на зямлі!

### Пад мірным небам



— Мамачка, якая цудоўная раніца!

Фотаэцюд С. Чыржыкіна.

## ПОДЗВІГ НАРОДА

### Сход прадстаўнікоў грамадскасці Масквы ў сувязі з 20-годдзем пачатку Вялікай Айчыннай вайны

У сувязі з дваццацігоддзем з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гадоў 21 чэрвеня ў Вялікім Крамлёўскім палацы адбыўся сход прадстаўнікоў грамадскасці Масквы. У зале пасяджэнняў сабраліся рабочыя, інжынеры, служачыя прадпрыемстваў і ўстаноў сталіцы, вучоныя, пісьменнікі, грамадскія дзеячы, воіны Савецкай Арміі. Многія з прысутных — удзельнікі Айчыннай вайны. Грудзі іх упрыгожваюць ордэны і медалі, атрыманыя за слаўныя подзвігі ў баях з фашызмам.

У ложах — прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, замежныя журналісты.

Бурнымі апладысментамі сустракае зала з'яўленне ў прэзідыуме таварышаў А. Б. Арыстава, Л. І. Брэжнева, М. Р. Ігнатава, Ф. Р. Казлова, А. М. Касыгіна, О. В. Куусінена, А. І. Мікаяна, Н. А. Мухітдзінава, К. А. Фурцавай, М. С. Хрушчова, М. М. Шверніка, П. М. Паспелава, В. П. Мжаванадзе, Г. І. Воранава.

У прэзідыуме знаходзяцца таксама міністр абароны СССР, Маршал Савецкага Саюза Р. Я. Маліноўскі, першы намеснік міністра абароны СССР Маршал Савецкага Саюза А. А. Грэчка, начальнік Генеральнага штаба Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту Маршал Савецкага Саюза М. В. Захараў, начальнік Галоўнага палітычнага ўпраўлення Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту Маршал Савецкага Саюза Ф. І. Голікаў. Маршалы Савецкага Саюза І. Х. Баграмян, С. С. Бірузоў, С. М. Будзённы, А. І. Яроменка, І. С. Конеў, К. С. Маскаленка, К. К. Ракасоўскі, С. К. Цімашэнка, В. І. Чуйкоў, Галоўны Маршал авіяцыі К. А. Вяршынін, адмірал флоту Савецкага Саюза І. С. Ісакоў, адміралы С. Г. Гаршкоў і А. Г. Галаўко, маршалы родаў войск, адміралы і генералы, прадстаўнікі грамадскасці сталіцы.

Сход адкрывае першы сакратар Маскоўскага гарадскога камітэта КПСС П. Н. Дзёмічаў.

Па прапанове Маршала Савецкага Саюза Ф. І. Голікава ўдзельнікі сходу пад бурныя апладысменты выбіраюць ганаровы прэзідыум у складзе Прэзідыума ЦК КПСС на чале з таварышам М. С. Хрушчовым.

Урачыстая мінута — у залу ўносяць Сцяг Перамогі, які запунсаваў над рэйхстагам у памятны красавіцкі дзень сорак пятага года. Усе прысутныя ўстаюць і горача апладзіруюць. Сцяг нясе адзін з удзельнікаў штурму рэйхстага Герой Савецкага Саюза палкоўнік К. Я. Самсонаў. Разам з ім — Героі Савецкага Саюза М. А. Ягораў, М. В. Кантарыя, якія ўзнялі гэты гістарычны сцяг на купале фашысцкай цытадэлі. Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў моцна паціскае рукі доблесным героям вайны.

Слова для даклада аб 20-й гадавіне з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны даецца міністру абароны СССР Маршалу Савецкага Саюза Р. Я. Маліноўскаму.

На сходзе выступілі Маршал Савецкага Саюза В. І. Чуйкоў, адмірал А. Г. Галаўко, генерал арміі Н. І. Крылоў, адзін з камандзіраў партызанскіх злучэнняў А. Н. Сабураў, удзельнік штурму рэйхстага М. А. Ягораў, праслаўлены лётчык тройчы Герой Савецкага Саюза А. І. Пакрышкін, член Савецкага камітэта абароны міру, маці двух герояў Савецкага Саюза, загінуўшых смерцю храбрых у баях за Радзіму, Л. Г. Касмадзям'янская.

Сустрэты бурнымі апладысментамі, на сходзе з прамовай выступіў Першы сакратар ЦК КПСС і Старшыня Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчоў.

Прамова таварыша М. С. Хрушчова была выслухана з велізарнай увагай і неаднаразова перапынялася гарачымі апладысментамі.

Удзельнікі сходу аднадушна прынялі прывітанне Цэнтральнаму Камітэту КПСС і Савецкаму ўраду.

Аркестр выканаў Дзяржаўны гімн Савецкага Саюза.

(ТАСС).

## З ТВОРЧЫМ УЗДЫМАМ

НАСУСТРАЧ XXII З'ЕЗДУ КПСС

### ХАРАСТВО ДУШЫ

На фоне станкоў малады рабочы. У яго поглядзе, накіраваным удалячынь — энергія, юнацкі запал. Гэта лепшы токар завода заточных станкоў Мікалай Чапурненка, наватар, член заводскага камітэта. Нядаўна ён змяніў матроскую форму на адзенне рабочага.

— Убачыць рост чалавека, уздым яго духоўных сіл — ці ж гэта не радасць для сапраўднага мастака? — гаворыць жывапісец Пётр Явіч.

Так, Явіч любіць герояў сваіх твораў, шчыра радуецца хараству іх душы, багаццю натуры. Некалькі год назад ён намаляваў партрэт былога марака. Але мастака цікавіць далейшы лёс маладога рабочага. Ён зноў ідзе на завод. Так паяўляецца новы партрэт Чапурненкі. Ткачыха, слесар-станкабудаўнік, зборшчыца электрапрылад, студэнтка — простыя савецкія людзі, сціплыя, але багатыя духоўна, прыцягваюць увагу мастака. І ён знаходзіць трапныя фарбы для раскрыцця іх унутранага свету.

З асаблівым захапленнем расказвае Пётр Явіч аб сваёй апошняй творчай задуме. Зусім нядаўна ён пабываў у калгасе «XVIII партз'езд» Талачынскага раёна, пазнаёміўся там з камсамолкай Марыяй Петрусёвай. Марыя — аграном, добраахвотна ўзначаліла спачатку адну, потым другую адстаючую паляводчую брыгаду.

Як жа перадаць цвёрдасць характару, арганізатарскі талент дваццацігадовай камсамолкі, паказаць яе гаспадыняй брыгады? Мастак малюе брыгадзіра на фоне маладога ільну, шырокіх калгасных прастораў. І вырастае апаэтызаваны вобраз аднаго з герояў нашых дзён. Пакуль што гэта толькі эскіз. Але і па эскізу можна меркаваць аб удалым кампазіцыйным вырашэнні партрэта.

— Паказаць веліч і прыгажосць савецкага чалавека — будаўніка камунізма — да гэтага заклікае пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў М. С. Хрушчоў у сваім артыкуле «Да новых поспехаў літаратуры і мастацтва», — гаворыць П. Явіч. — Мудрыя парады Мікіты Сяргеевіча, яго шчырая размова з дзеячамі мастацтва павялічваюць нашы сілы.

Думкі П. Явіча аб натхняючым уздзеянні артыкула М. С. Хрушчова падзяляюць усе мастакі Віцебска, з якімі нам давялося гутарыць. Цэнтральнай тэмай творчасці большасці мастакоў з'яўляецца паказ людзей пярэдняга краю сямігодкі, радавых сучаснікаў і герояў нашых дзён.

Нядаўна з творчай паездкі ў саўгас «Азярцы» Глыбоцкага раёна вярнуліся мастакі А. Талкач, М. Міхайлаў, Л. Мішурны. Восем дзён сустракаліся яны з перадавымі людзьмі саўгаса — паляводамі, жывёлаводамі, механізатарамі, цікавіліся іх работай, жыццём, адпачынкам. Намалявалі рад партрэтаў перадавых людзей вытворчасці для вясковага клуба, афармілі стэнды працоўнай славы, зрабілі малюнкі для дзіцячага сада. А цяпер, прыехаўшы ў Віцебск, мастакі ствараюць цэлую галерэю партрэтаў сваіх новых сяброў.

Адзін са старэйшых віцебскіх мастакоў У. Кухараў паказаў нам дзве свае апошнія работы — партрэты Герояў Сацыялістычнай Працы ільнаводкі Валянціны Кароткай і свінаркі Марыі Ігнатавай.

### НЕЎМІРУЧАЯ ТЭМА

Аб мужнасці і гераізме савецкіх людзей у грозны і суровы час Айчыннай вайны нельга пісаць цяпер так, як пісалі раней, па слядах вялікіх падзей. Патрэбна глыбокае, высокамастацкае філасофскае пранікненне ў неўміручую тэму.

У мінулым годзе П. Явіч дэманстраваў на абласной выстаўцы твор «Заложнікі».

Задумаў новую карціну аб вайне і мастак А. Каржанеўскі. Ён піша пра обальскіх падпольшчыкаў, подзвіг якіх яшчэ не адлюстраваны ў жывапісе. Ужо ёсць эскіз карціны. Камсамольцы паказаны ў лесе, ля вогнішча, перад прыняццем прысягі. Мастак імкнецца да знешняга падабенства герояў, але, на наш погляд, мала дбае аб арыгінальнасці кампазіцыі. Камсамольцы стаяць перад вогнішчам гуртам, іх твары даволі аднастайныя.

### САМАЕ ЗАПАВЕТНАЕ

У кожнага мастака ёсць свая, запаветная тэма. Адзін прысвячае гэтай тэме многія гады, другі — аддае ўсё жыццё.

А што больш за ўсё хвалюе заслужанага дзеяча мастацтва Я. Нікалаева?

— Вы ж ведаеце, — гаворыць Яўген Дзмітрыевіч, — я мастак-дэкаратар, афармляю спектаклі.

Мастак не проста механічна выконвае патрабаванні драматургаў і рэжысёраў, малюе дэкарацыі згодна аўтарскіх рэмарак. Ён імкнецца знайсці адпаведныя формы для больш глыбокага вырашэння ідэі спектакля. Цікавымі ў гэтых адносінах з'яўляюцца дэкарацыі да спектакля «Выгнанне блудніцы» па п'есе І. Шамякіна.

Але няўжо мастак Я. Нікалаеў абмяжоўвае сябе толькі тэатральнай работай? Ён прыносіць эскізы, схаваныя пакуль што ад старонніх вачэй.

...Возера. Рассейваецца ранішні туман. Узыходзіць сонца. Ціха плыве човен. У ім Ленін са стрэльбай цераз плячо. Ленін на паляванні — такія творы ўжо ёсць. Але па задуме Я. Нікалаева Ленін са стрэльбай — не проста паляўнічы, а летуценнік, які пільным, празарлівым вокам углядаецца ў блізкае світанне.

Паказаць Леніна простым, чалавечным чалавекам — гэта не значыць акружыць яго дробязямі быту. Міжвольна ўспамінаецца апошняя аповесць Эм. Казакевіча «Сіні сшытак», дзе аўтар проста жывапісуе правадыра рэвалюцыі. У пачатку аповесці мы таксама бачым Ільіча, які плыве на чаўне па возеру. Гэта жывы, чалавечны чалавек, але чалавек незвычайны — вялікі стратэг, філосаф, правадыр.

— Мне вельмі б хацелася, — гаворыць мастак, — закончыць сваю работу, якую я выношваю ўжо многа год, да XXII з'езда КПСС.

* * *

Мы назвалі далёка не ўсіх віцебскіх мастакоў, успомнілі толькі пра некаторыя творы, што нараджаюцца ў гэтыя дні.

У адным страі з прафесіяналамі, з тым жа творчым уздымам, як і яны, рыхтуюць свае падарункі з'езду партыі самадзейныя мастакі Віцебшчыны. Рабочы домабудаўнічага камбіната Мікалай Гвоздзікаў піша серыю партрэтаў сваіх сяброў па рабоце — членаў брыгад і ўдарнікаў камуністычнай працы. Аршанскія самадзейныя мастакі Анатоль Васілеўскі і Аляксандр Лунёў ствараюць на ільнокамбінаце галерэю партрэтаў перадавікоў. Полацкі ўмелец Анатоль Міхеенка выразае з дрэва серыю вобразаў герояў беларускіх народных казак.

Самадзейным мастакам дапамагаюць прафесіяналы. Нядаўна яны правялі пяцідзённы семінар пры Доме народнай творчасці, пазнаёмілі пачынаючых мастакоў з асновамі выяўленчага мастацтва.

З творчым запалам, з сапраўднай узнёсласцю і натхненнем працуюць у гэтыя дні віцебскія мастакі.

В. ВІКТАРАЎ.

## ВЫСТАЎКА ТВОРАЎ МАСТАКОЎ КІНО

У акруговым Доме афіцэраў адкрылася першая выстаўка работ мастакоў беларускага кіно.

У дзвюх залах экспануюцца эскізы дэкарацый, касцюмаў, выкананыя мастакамі Е. Ганкіным, Ю. Булычавым, В. Белавусавым, В. Бярковічам і іншымі майстрамі выяўленчага мастацтва. Амаль 170 планшэтаў і кадраў з фільмаў адлюстроўваюць работу над карцінамі «Міколка - паравоз», «Зялёныя агні», «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Чырвонае лісце» і іншымі. Яны па-свойму расказваюць аб невядомых баках стварэння мастацкіх карцін, якія палюбіліся дзесяткам мільёнаў савецкіх гледачоў і наведвальнікам кінатэатраў зарубежных краін.

Некаторыя з экспанатаў апавядаюць аб рабоце над новымі фільмамі «Чалавек не здаецца», «Першыя выпрабаванні» і іншымі, якія нядаўна выйшлі на экраны.

(БЕЛТА).

## Фільм пра абаронцаў Брэста

Мінская студыя навукова-папулярных і дакументальных фільмаў стварыла новую дакументальную карціну ў дзвюх частках «Цытадэль славы» — аб героях Брэсцкай крэпасці. Аўтары сцэнарыя Р. Няхай і П. Прыходзька, рэжысёр М. Гарбуноў, аператар Р. Масальскі.

У новым творы беларускага дакументальнага кіно паказаны першыя гадзіны барацьбы мужных абаронцаў супраць нямецкіх акупантаў, якія абрушылі на крэпасць агонь 500 гармат і дзесяткаў самалётаў. У карціне выкарыстаны архіўныя матэрыялы з нямецкіх кіназдымкаў баёў вакол крэпасці, музейныя экспанаты. Дэманструюцца кадры, на якіх зняты ўдзельнікі абароны цытадэлі, што засталіся ў жывых.

У гэтыя дні фільм выходзіць на экраны рэспублікі, ён будзе таксама паказвацца па Мінскаму тэлебачанню.

## УЗНАГАРОДЖАННЕ ГАЗЕТЫ

У сувязі з саракагоддзем і за заслугі ў камуністычным выхаванні савецкіх воінаў, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў газету Беларускай ваеннай акругі «Во славу Родины» Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

Ганаровай граматай і граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР узнагароджана таксама група работнікаў рэдакцыі газеты і друкарні «Во славу Родины».

## СУСТРЭЧА З ЧЭХАСЛАВАЦКІМ ЖУРНАЛІСТАМ

У Мінск прыехаў вядомы чэхаславацкі журналіст, галоўны рэдактар часопіса «Свет Саветаў» Андрэй Путра. Госць нашай сталіцы пазнаёміўся з жыццём працоўных Мінска, пабываў на аўтамабільным заводзе, камвольным камбінаце, наведаў майстэрні мастакоў. У рэдакцыі часопіса «Беларусь» адбылася цёплая сустрэча супрацоўнікаў з А. Путрам, на якой госць расказаў аб выдавецкай справе ў Чэхаславакіі.

## Сорак першы — шэсцьдзесят першы

Тысячы жыхароў Мінска накіраваліся ўчора на плошчу Перамогі, каб ускласці вянкі ў памяць тых, хто аддаў сваё жыццё на палях бітваў у суровыя гады Айчыннай вайны. Бясконцым патокам ішлі былыя салдаты і партызаны, хатнія гаспадыні, моладзь, воіны Савецкай Арміі. На вянках — кароткія, лаканічныя надпісы: «Мужным воінам, аддаўшым жыццё ў абароне Радзімы», «Партызанам і партызанкам Беларусі», «Воінам-пераможцам». Колькі цеплыні ў простых словах, колькі ўдзячнасці.

Гучаць урачыста гімны Савецкага Саюза, Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У маўклівым шэсці ідуць працоўныя сталіцы да манумента.

У гэты дзень былі ўскладзены вянкі на магілкі і помнікі воінаў і партызан, якія загінулі ў баях на Віцебшчыне, Магілёўшчыне, Брэстчыне і іншых месцах рэспублікі.



НА ЗДЫМКУ: плошча Перамогі. Ускладанне вянкоў.

Фота М. РУБІНШТЭЙНА.

# ПРА ТЫХ, ХТО ВЫСТАЯЎ

Кнігу «Аб тых, хто выстаяў» напісаў не прафесіянальны пісьменнік. Але, прачытаўшы яе, разумееш, што не напісаць яе М. Яругін не мог. Неўтаймаваныя думкі, памяць аб слаўных абаронцах горада Леніна ў гады Вялікай Айчыннай вайны, аб такіх блізкіх і слаўных баявых таварышах, многія з якіх загінулі, але не прапусцілі ворага ў горад-герой, не давалі спакою аўтару, былому ўдзельніку баёў за Ленінград, камандзіру ўзвода супрацьтанкавай артылерыі. «...Ніхто не ведае ўзгорачкаў, пад якімі ляжаць яны... А ў сэрцах і памяці аднапалчан іх вобразы жывуць, гараць нязгасна. Тут і ўсемагутны час бяссільны. Не забудзе іх і памяць народная. Знойдуцца красамоўцы, знойдуцца гусляры, і ўваскрэснуць гэтыя героі ў песнях, у легендах, вершах».

Шмат ужо напісана выдатных твораў у розных жанрах аб ленінградскай эпапеі. І тым не менш кнігу «Аб тых, хто выстаяў» чытаеш не адрываючыся. Яе сіла ў свежасці і дакладнасці франтавых сцэн, гераічных і трагічных, абыдзённа празаічных і гумарыстычных, у іх глыбокай праўдзівасці і чалавечнасці.

М. Яругін расказвае аб першым, самым цяжкім ваенным годзе, аб баях за Ленінград, якія адбываліся з верасня 1941 года да сакавіка 1942 года пад Колпінам, баях крывавых і бесперапынных, хоць яны мелі ў асноўным мясцовае значэнне і не ўпаміналіся ў паведамленнях Саўінфармбюро. Падзеі ленінградскай абароны адлюстроўваюцца ў кнізе так, як яны былі бачны самому аўтару, воіну-камандзіру. Памяць сэрца дапоўніла дзённікавыя запісы М. Яругіна, надала ім суб'ектыўную афарбоўку, лірычна-усхваляваныя інтанацыі.

Аўтар падрабязна апісвае ваенныя абставіны, характарызуе салдат і камандзіраў. Перад чытачом праходзяць яркія індывідуальнасці воінаў. Шырока і ярка адлюстраваны ў кнізе бытавы, штодзённы бок вайны—барацьба людзей за жыццё, супраць холаду, голаду, смерці. Аўтар знаходзіць велічнае і гераічнае ў прастаце салдацкіх адносін да сваёй справы. Бесперапынная перамена баявых пазіцый, баі, атакі былі часткай штодзённага жыцця воінаў, прывычнай, хаця і вельмі небяспечнай справай, якая патрабавала канцэнтрацыі і напружання ўсіх фізічных і духоўных сіл. «І пацягнуліся за днямі дні нязменнай гурмой. Папаўненне, атака. Папаўненне і зноў наступленне. І гэтак без канца, без краю, без перапынку, без стомы рвалі блакаду Ленінграда. І праходзілі гужам эпізоды, падзеі і людзі. Усё featureзнае, непаўторнае, індывідуальнае».

Як у калейдаскопе, чаргуюцца людзі, падзеі, але ў цэнтры іх пастаянна знаходзіцца камандзір узвода, якім валодае адно жаданне—бліжэй падысці да людзей, што вырашалі лёс вайны, зазірнуць у іх душы ў самыя цяжкія мінуты, расказаць аб велічы такіх людзей, як камісар батарэі Блінаў—выдатны камандзір і таленавіты партыйны важак-выхавацель; камандзір гарматы, потым узвода Цыганкоў — чалавек спакойнай упэўненасці, выключнай стойкасці і храбрасці; начартылерыі палка Цімохін—вынаходнік універсальных сродкаў барацьбы супраць ворага; нязменны сувязны, зусім яшчэ юнак Аўчароў; наводчык Папоў, які страляў адзін з трох гармат, перапаўзаючы ад адной да другой, калі ўвесь узвод загінуў; наводчык Куракоў, які заўсёды на вока дакладна трапляў у варожыя цэлі; повар Слынько, які нават у голад варыў суп «амаль з сякеры» і г. д.

Героі кнігі — сапраўдныя, не створаныя фантазіяй пісьменніка людзі. «Нямала чытачоў сустрэнуць тут сваіх родных і знаёмых, таму што прозвішчы ўдзельнікаў падзей захаваны... Знойдуцца сярод чытачоў і ўдзельнікі гэтых баёў».

Пераканальна раскрываецца працэс станаўлення характару воіна ў агні вайны на вобразе самога аўтара. Апавяданне ў кнізе «Аб тых, хто выстаяў» вядзецца ў форме дзённіка. Дзённік М. Яругіна — гэта яго споведзь перад сваім сумленнем, сумленнем воіна і камандзіра-камуніста, перад памяццю загінуўшых баявых таварышаў. Яругін праўдзіва гаворыць аб псіхалогіі ўдзельнікаў бою. Храбрасць і мужнасць не выключаюць страху смерці, нават разгубленасці ў некаторых выпадках, але яны паступова становяцца якасцю валявога характару савецкага патрыёта. Цяжка было чалавеку, жыццё якога нядаўна праходзіла ў мірнай працы, перамагчы страх смерці. У складаных ваенных умовах камандзір узвода, былы дацэнт Ленінградскага універсітэта М. Яругін авалодваў баявым вопытам, вучыўся па-сапраўднаму ненавідзець ворага, глыбока ўсвядоміў абавязак абароны радзімы, сэнс і цану нечалавечых намаганняў абаронцаў Ленінграда. «Мы і не меркавалі, што нашы звышчалавечыя намаганні былі ўключаны ў вялікі план нашай Стаўкі. Адкуль гэта ведаць салдату, які моўчкі, сціснуўшы зубы, выціскае з сябе ўсю энергію да апошняй кроплі, шмат дзён запар у мароз і завеі толькі паўзе ў траншэі па снезе, па трупах, страляе ды бачыць і чуе ўсюды смерць. Ён толькі тое і ведае, што ззаду Ленінград, а яшчэ далей Радзіма, якая сыходзіць крывёю і напружвае ўсе свае сілы для нанясення ўдару ворагу пад дзевятае рабро».

Дух няскоранасці, суровай рашучасці, вера ў перамогу пастаянна спадарожнічаюць героям кнігі «Аб тых, хто выстаяў», выяўляюцца ў тыповых сітуацыях ваеннага жыцця.

Аўтар не закрывае вачэй і на тыя адмоўныя з'явы, што мелі месца ў нашай арміі, асабліва ў пачатку вайны. Гэта — часовая разгубленасць, недастатковае тэхнічнае забеспячэнне арміі, выпадкі баязлівасці, безадказнасці, кар'ерызму, шкурніцтва, здрады. Паказваючы адмоўныя з'явы, раскрываючы трагічнае аблічча вайны, М. Яругін настойліва выяўляе яе гераічную праўду і мужнасць савецкіх патрыётаў.

У кнізе сустракаюцца малюнкі смерці, але адсутнічае смакаванне жахаў, груба пачуццёвых малюнкаў. Смерць—гэта не толькі жалезная непазбежнасць вайны, але і цана перамогі. Разам з гэтым у подзвігах савецкіх патрыётаў адсутнічае самаахвярная асуджанасць фанатыкаў-фаталістаў. Героі шукаюць не смерці са славай, а перамогі над ворагам.

М. Яругін напісаў кнігу, якую выношваў шмат год. Безумоўна, можна знайсці ў пратакольна сціслых, кароткіх фразах дзённікавых запісаў мемуарыста недакладнасці стылю, можна ўказаць на фрагментарнасць асобных эпізодаў і сцэн.

Не заўсёды і не ўсюды аўтар умела адбірае факты, правільна акцэнтуе іх, а таму другараднае, чыста бытавое ў кнізе іншы раз засланяе галоўнае — высакародства духу савецкіх воінаў, высокую свядомасць іх подзвігу. Хацелася б сустрэць ва ўспамінах пра франтавое жыццё артылерыйскага падраздзялення, у якім ваяваў аўтар, большае адчуванне суровага жыцця і барацьбы ўсёй краіны ў той грозны ваенны год. Тады б кніга набыла істотна новую, шырэйшую перспектыву, перастаўшы быць нейкім замкнутым «кавалкам» ленінградскай эпапеі. Адным словам, аўтар не ўсюды ўзнімаецца да абагульненняў, да той філасофіі падзей і фактаў, якая надае бачанаму вышэйшую, мастацкую праўдзівасць і пераканаўчасць.

І ўсё ж кніга «Аб тых, хто выстаяў», напісаная крывёю сэрца ўдзельніка тых грозных падзей, глыбока хвалюе. Лепшыя яе старонкі гучаць па-сучаснаму, напоўнены гуманістычным, антываенным пафасам.

Павел ДЗЮБАЙЛА.

М. Яругін. «О тех, кто выстоял». Выдавецтва АН БССР, 1961.

# Адважныя

22 чэрвеня 1941 г. Золак. Толькі што з Масквы прыбыў у штаб дывізіі старшы лейтэнант Рубен Ібаруры. Палкоўнік Якаў Рыгоравіч Крэйзер быў здзіўлены. Ён ведаў, што Р. Ібаруры знаходзіцца ў адпачынку. «Што здарылася?» — спытаў у яго камандзір дывізіі. «Нічога не ведаю, — адказаў ён, — маці развіталася са мною і сказала, каб я неадкладна вярнуўся ў сваю часць». Палкоўнік Крэйзер стаяў задумаўшыся.

Так пачыналася вайна. Было загадана рыхтаваць дывізію на фронт. 26 чэрвеня яе часці былі ў Оршы. Воіны Пралетарскай дывізіі пачалі займаць абарону. Разведчыкі капітана Цыганкова зрабілі глыбінную разведку пад Слаўным і Барысавам. Камандзір дывізіі Крэйзер і камісар Мяшкоў аддаюць загад сваім часцям заняць абарону ў раёне Барысава. Часці дывізіі пад бамбёжкай варожай авіяцыі сталі на Беразіне. Іх падтрымлівала танкавае падраздзяленне. Камандаваў перадавым атрадам палкоўнік Глуздоўскі. Воіны прынялі на сябе першы бой з гітлераўцамі. Фашыстам не ўдалося з ходу фарсіраваць раку. Вораг быў спынены.

Геройскай смерцю ў баі загінулі разведчыкі — камуністы палітрук Пачапцоў і радыст Голенаў. Бранявік, у якім яны знаходзіліся, быў падбіты. Гітлераўцы акружылі машыну, хочучы ўзяць у палон воінаў. Але байцы вырашылі змагацца да апошняга. Яны стралялі з гарматы і кулямёта па ворагу. Па бранявіку фашысты адкрылі агонь з супрацьтанкавай гарматы. Снарад разарваўся паміж пярэднімі коламі бранявіка. Другі прабіў запасны бак з бензінам. Машына загарэлася. Кончыліся боепрыпасы. Пачапцоў адчыніў люк і кінуў гранату на галовы гітлераўцаў. З палаючай машыны чулася песня: «Это есть наш последний и решительный бой...»

Барацьба ішла за пераправы цераз раку. Воіны ўзарвалі мост у раёне Весялова. Гітлераўцы пачалі будаваць новую пераправу. Як толькі нямецкія аўтаматчыкі і матацыклісты ступілі на пантонны мост, на іх з усходняга берага пасыпаліся кулі. Нашых кулямётчыкаў падтрымлівалі артылерысты. Увесь дзень на гэтым участку ішлі жорсткія баі. Варожая авіяцыя бамбіла, мінамёты абстрэльвалі нашы агнявыя пазіцыі. Батальён капітана Шэпелева ў баях 1—2 ліпеня ў раёне Весялова ўпарта супраціўляўся, тры разы адбіў спробу ворага пераправіцца цераз раку Беразіну.

2 ліпеня фашысцкім танкам удалося прарвацца праз мост на шашы Мінск — Масква, які не быў узарваны. Камандаванне праціўніка выкінула на правым фланзе дывізіі парашутны дэсант. Стварылася крытычнае становішча. Камандзір палка маёр П. Новікаў выставіў на правы фланг першы батальён. Варожыя аўтаматчыкі амаль усе былі знішчаны, толькі некаторым удалося схавацца ў лесе. У час ліквідацыі дэсанту адважным і ўмелым камандзірам праявіў сябе слаўны сын іспанскага народа. Ён з воінамі роты прабраўся ў тыл дэсанту, нечакана для ворага напаў на яго і вырашыў зыход бою. Сам Рубен Ібаруры ў крытычную хвіліну з кулямётам у руках адбіваў контратаку фашыстаў.

На працягу трохдзённага бою на рубяжы ракі Беразіны ў раёне Барысава фашысты страцілі звыш адной тысячы забітымі і параненымі, дзесяткі танкаў, гармат і мінамётаў, звыш ста аўтамашын, 12 самалётаў, сотні матацыклаў.

Баі працягваліся на другіх участках абароны. На рубяжы Безымяннага ручая ля вёскі Малыя Крупкі быў вялікі танкавы бой, якім кіраваў капітан С. Пронін. Пад вечар поле бою пакрылася туманам і дымам. Сямён Пронін стаяў у адкрытым люку вежы і кіраваў боем. У гэты момант ён быў забіты. Скончыўся бой. Многія танкі ворага стаялі нерухомыя, разбітыя, гарэлі.

У раёне Бабра воіны батальёна Д. Шэпелева пасля жорсткага бою трапілі ў акружэнне, з якога пад бамбёжкаю авіяцыі выйшлі без страт. 7 і 8 ліпеня байцы Д. Шэпелева змагаліся ля вёскі Перавалочная. Тут праходзіла шаша Мінск — Масква. Воіны адбілі некалькі атак ворага, знішчылі 16 танкаў і да паўтары роты фашыстаў. Камбат быў паранены, але не пакінуў поле бою.

Гераічны подзвіг зрабіў артылерыст-камсамолец Мікола Дзмітрыеў пад Талачыном 13 ліпеня. Ён заўважыў, што на яго ідуць танкі ворага. Камсамолец адкрыў агонь па фашысцкіх машынах. Ад прамога пападання загарэўся адзін танк, за ім — другі. Фашысты снарад за снарадам пасылаюць па гармаце М. Дзмітрыева. Загінуў разлік. Снарадам адбіта правая станіна гарматы, а сам Дзмітрыеў цяжка паранены. Танк ішоў проста на гармату. Герой-камсамолец падняўся на ногі, зарадзіў гармату, выстраліў — падбіты яшчэ адзін танк. Грымелі стрэлы трапнага наводчыка. Снарады кладзіся ў цэль. Асколкі снарадаў асыпалі наводчыка. Бой заціхаў. Танкі былі затрыманы, не прайшлі.

Дзмітрыеў падбіў і падпаліў 13 танкаў. Урачы дасталі з цела Міколы 17 асколкаў. Герой-артылерыст выжыў, дужы арганізм перамог.

За геройскія подзвігі ў першых баях супраць фашысцкіх ордаў сотні воінаў дывізіі былі ўдастоены высокіх узнагарод. М. Дзмітрыеву і камдзіву Я. Крэйзеру прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Ордэнамі Леніна былі ўзнагароджаны капітаны П. Цыганкоў, С. Пронін, Д. Шэпелеў, ордэнам Чырвонага Сцяга—Р. Ібаруры і многія іншыя воіны.

Л. ЧВАНАЎ,
старшы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

НАРАЧАНСКІЯ ПРАСТОРЫ.

Фота П. Чайкоўскага.

# У першы дзень

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

У гэты дзень мая чарга на абмундзіроўку не падыйшла, аднак дадому мяне не пусцілі, загадалі ўсім ісці ў пустую казарму нанач.

Над казармай раз-пораз лягалі фашысцкія самалёты. Мусіць, гады пранюхалі, што тут добрая цэль для іх. На самым вільчыку казармы, ля коміна, яшчэ загадзя, задоўга да вайны, быў абсталяваны спецыяльны памост, на якім цяпер стаяў счацвераны зенітны кулямёт. Пры ім дзяжурылі салдаты. Але дзіва: як толькі налятаў самалёт, разлік кулямёта некуды знікаў. Фашысцкія лётчыкі набраліся такога нахабства, што, высоўваючыся з кабіны, махалі кулакамі: маўляў, мы вам пакажам. Кулямёт са сваіх чатырох ствалоў мог бы гэтак касануць, што ў тых фашыстаў назаўсёды б адпала ахвота ваяваць. Мы, як толькі налятаў самалёты, хаваліся з відавоку і адзін у аднаго пыталі: чаму не страляе кулямёт? Дапыталіся ў сержантаў, якія тут распараджаліся нашай мабілізацыяй, што начальнік зборнага пункта капітан Гулявіцкі аддаў загад кулямётчыкам не страляць па самалётах, не ўдражніваць фашыстаў, каб яны не разнеслі ўсяго тут. Для самога капітана салдаты выкапалі глыбокую ў рост чалавека траншэю, і ён кожны раз, як толькі чуў гул матора, кідаўся туды, як апантаны. Сержант паказаў мне капітана Гулявіцкага. Гэта быў высокі, стройны, гнуткі, як балерына, з тонкай, перацягнутай на апошнюю дзірачку папругі таліяй чалавек. Абмундзіраванне на ім было, быццам ён сабраўся не на вайну, а на парад. Твар смуглявы, на верхняй губе вусікі трошачкі шырэйшыя за ноздраў носа. З-пад фуражкі з бліскучым казырком як бы выпісваліся намаляваныя чорнай тушшу бакенбарды, што даходзілі трошачкі ніжэй мочак вушэй.

На змярканні зноў паявіўся самалёт. Ён павольна кружыў над прырэчным раёнам горада. Лётчык да таго высоўваўся з кабіны, што, здавалася, ён вось-вось выкуліцца. Нехта з сержантаў не вытрываў і стрэліў з вінтоўкі. Вядома, ён не пацэліў ні ў лётчыка, ні, можа, нават у самалёт, мо' нават лётчык і не пачуў таго стрэлу, бо ён ніяк не рэагаваў на яго. Затое стрэл пачуў капітан Гулявіцкі. Як толькі самалёт аддаліўся, ён выскачыў з траншэі і закрычаў на ўвесь двор:

— Хто страляў?

Маўчалі сержанты. Маўчалі і мы, мабілізаваныя, хоць і бачылі, што страляў куцы, з пабітым воспаю тварам сержант, які ляжаў непадалёк ад мяне пад сцяною. А капітан Гулявіцкі не ўнімаўся:

— Хто страляў, пытаю ў вас?

Сержанты перакідваліся позіркамі. Нарэшце, васпаваты сержант падбег да капітана і далажыў:

— Я страляў, таварыш капітан!

— Хто вам загадаў?

— Сэрца загадала, таварыш капітан, фашыста біць. Вінтоўка не ўтрымалася, сама стрэліла.

— А вы ведаеце, што ўчынілі злачынства?

— Ніяк не, таварыш капітан!

— Дык ведайце: сваім стрэлам вы дэмаскіравалі нас і тым самым зрабілі злачынства.

— Не ведаў, таварыш капітан. Я думаў, як дзе толькі паявіцца фашыст, па ім трэба страляць.

— Думаў! — перакрывіў капітан. — За такое свавольства пад суд трэба.

— Вінават, таварыш капітан.

— Глядзіце, каб гэта было апошні раз.

На мулкай казарменнай ацэментаванай падлозе я ў тую ноч не заснуў і на волас. Усё думалася-думалася, як яно будзе. Думалася не толькі пра сябе, — пра ўсю краіну, пра яе вялікую бяду, што неспадзявана нізрынулася ёй на галаву.

Радзіма! Кожная твая сцяжынка нібы пратораная маімі нагамі. Кожнае тваё дрэўца нібы пасаджана маімі рукамі. Кожны каласок, што расце на тваёй зямлі, нібы пасеяны і ўспешчаны маім клопатам і працай. Кожны камень на бруку вуліц тваіх гарадоў быццам мною пакладзены. І от цяпер недзе па бруку тваіх вуліц грыміць падкутым крокам фашыстоўскі бот; тваё ціхае водарнае паветра аж разрываецца ад енку матораў: па тваіх палявых сцежках блукаюць, як прывід, фашысцкія ваякі. Як жа не балець сэрцу, як жа тут пазбыцца клопату і заснуць хоць на момант! Ды хіба я адзін не сплю? Спяць, мабыць, толькі тыя, каго прыгналі сюды кіламетраў за дваццаць-трыццаць і ў каго аж гудуць натруджаныя ногі. Я нават зайздрошчу ім. Каб жа заснуць... У сне ж і гора і боль праходзяць лягчэй. Вунь жа чалавек у сінім паношаным гарнітуры пад гальштукам, мусіць такі, спіць, накрыўшы кепкаю вочы? Толькі я гэтак падумаў, як чалавек павярнуўся, з твару спаўзла кепка, і я пачуў:

— Чаму вы не спіце, таварыш Шыянок?

— А адкуль вы мяне ведаеце?

— Вас многа хто ведае. Журналіста ды не ведаць. З год таму назад вы на нашым заводзе былі. Яшчэ са мной гутарылі.

— Памятаю, — адказаў я, хоць і ніяк не мог прыгадаць, калі гэта і пры якіх акалічнасцях было.

— Маё прозвішча Марыніч, калі выпадкова забыліся...

— Памятаю, памятаю, — пацвярджаю я, рады таму, што знайшоўся знаёмы чалавек.

— Што гэта будзе, вы не ведаеце? — пытае Марыніч. — Мабыць, лясне наша краіна... Гэта ж такая сіла рушыла на нас ды з-за вугла, спадцішка, неўспадзеўку.

— Дармо вы так думаеце, таварыш Марыніч. Сіла ў нас большая, — стараюся я пераканаць суседа.

А Марыніч тым часам шэпча мне:

— Я чуў, што ўжо ўсе гарады да Мінска пад фашыстам. А Мінск увесь агнём падняўся. Армія наша разбягаецца, як апантаная.

— Адкуль вы ўсё гэта чулі? — аж зазлаваў я. — На вайне, вы ведаеце, як плёткі разносяцца. Вядома, у фашыстаў перавага: яны на нас напалі знянацку, калі мы ўсе спалі.

— Кажуць, — працягвае Марыніч, — уся наша граніца была раззброена. Самалёты і танкі бензіну не мелі, а войска не мела баявога прыпасу. Папрацавалі гітлеравы шпіёны. Кажуць, сам камандуючы акругі быў шпіёнам.

— Адкуль вы ўсё гэта ўзялі? — ускіпеў я.

— А вы не злуйце. За што купіў, за тое і прадаю, — трошкі спалохаўся майго гневу Марыніч.

— Вы нікому пра гэта не заікайцеся, — раю я яму. — Гэта пахне дэмаралізацыяй войска. Такія гаворкі могуць для вас дрэнным скончыцца.

Марыніч, мусіць, убачыўшы, што зерне, якое сее ён, падае на камень, прымоўк.

Неяк само сабою, пасля некаторага моманту маўчання, гаворка перайшла на звычайнае. Марыніч дапытваўся, хто ў мяне астаўся дома і ці мае жонка што на пражытак. Калі я сказаў яму, што ніякіх запасаў у нас дома няма, дык ён аж рукамі ўсплясну: як гэта так—журналіст, чалавек, які, мабыць, і зарабляў ніштавата, не думаў, не дбаў пра чорны дзень.

— Я чорнага дня не чакаў. Верыў, што ўсе нашы дні будуць светлымі, сонечнымі.

— Дзівак-чалавек. Заўсёды трэба думаць пра чорны дзень. У кожнага чалавека, калі яшчэ яго не было, дык абавязкова будзе,—зрабіў свой поўны безвыходнасці вывад Марыніч.

— Адкуль у вас такая філасофія асуджанасці чалавека? Я не веру ў яе.

— Добра вам, калі вы не верылі. А цяпер от паверце, бо чорны дзень для ўсіх настаў.

— На людзях і гора не такое горкае. Як будуць усе жыць, гэтак і мае пераб'юцца,—выказаў я Марынічу, хоць сам сабе падумаў, што гэты Марыніч, у якім столькі сялянскага, нават мужыцкага, мабыць-такі, і мае трошкі рацыю. Калі б я пра гэта думаў, дык і мы з Марылькай мелі б сякі-такі запас, хоць на першыя дні. А так хто яго ведае, як яна з дзіцём будзе абыходзіцца. Але гэтых сваіх думак я не выказваў Марынічу, а запытаў у яго, ці даўно ён працуе на заводзе. Марыніч здзівіўся майму запытанню, але адказаў, што на заводзе працуе гадоў з чатыры, што пасля дэмабілізацыі з арміі не паехаў у сваю вёску, а ўладкаваўся на заводзе. За гэты час пабудаваў сабе дамок на Спакойнай вуліцы і жыў сабе анігадкі.

— Дык вы мо' і Леванюкоў ведаеце?

— Чаму ж мне не ведаць, яны ж мае суседзі.

— І Іру ведаеце?

— Хто яе не ведае. Цяпер яе ўся вуліца ведае. Мабыць, і вы туды дахаджалі? Пасля трэцяга мужа дык зусім па руках пайшла. Стары ніяк не можа даць рады да глузду яе прывесці.

Мне не хацелася, больш таго, балюча было слухаць гэта: усё такі, я некалі кахаў яе, і мо' нават трошкі вінаваты, што яна стала такою. Не хапіла рашучасці паваяваць за чалавека. Але, каб не назыляць самому сабе, я прапаную Марынічу:

— Давайце хоць трошкі паспім. Хто яго ведае, ці давядзецца нам цяпер калі выспацца.

На двары была летняя ціхая ноч, якая ўжо ішла на спад, на шыбы вокан наплывала шэрань світання. Я наставіў каўнер пінжака і, паклаўшы галаву на нейкі чурбак, заплюшчыў вочы. Заплюшчыў адно для прыліку, каб толькі адкараскацца ад гаворкі з Марынічам. А думкі-думкі, асабліва, калі заплюшчваў вочы, не давалі быту. Перад вачыма стаяла заплаканая, разгубленая Марылька. Мне здавалася, што на тое самае сутарэнне, у якое я не даў рады пралезці, упала самая вялікая бомба. Бачу Сяргейку: на яго вялікіх, гэтакіх, як у маці, светла-блакітных вачах, застылі, як бабіны, дзве слязы і ніяк не могуць скаціцца. Хлопчык не можа іх выплакаць і яны яго душаць. «Тата, тата», — здаецца, крычыць ён, як заўсёды шукаючы ў мяне ратунку.

За гэтыя колькі хвілін, нібы запісанае на кінаплёнку, прабегла ў памяці і перад вачыма жыццё Сяргейкі. Успомніліся яго першыя крокі. Я ўзяў пад пашкі, паставіў на ножкі і ён адразу, валюхаючыся, як качанё, пабег хуценька-хуценька. А цяпер от усё паляцела ў прадонне. Можа, больш я ніколі не ўгледжу ні Сяргейкі, ні Марылькі. Здаецца, каб прымеў, дык зубамі б грыз горлы фашыстам за тое, што яны ўчынілі гэтакае на нашай зямлі.

У казарме ніхто не крычаў пад'ёму. Недзе непадалёк, можа, на элеватары, гэхнула бомба і як бы напалам раскалола зямлю. Усіх нас, як ветрам, падняло на ногі. Выбеглі на двор. З траншэі вырынула капітанава галава. Мабыць, ён там і начаваў. Як сам не свой, капітан крычаў:

— Маскіруйцеся! Не збірайцеся ў кучы! Ляцяць! Ляцяць!

Сапраўды, капітан меў вельмі чуйнае да маторнага енку вуха. З-пад сонца, якое скрываўленым колам выкацілася на небасхіл, набліжаўся гул. Цяжкія самалёты хвалямі наплывалі на ціхае неба горада. Яны рэзка пікіравалі з вышыні і калацілі выбухамі зямлю. Узмахвалі чорныя грыбы дыму і пылу. Не паспеў ён асесці, развеяцца ў паветры, як новая хваля зрынулася на зямлю. Спрабавалі ляскаць зенiткі, але хутка змаўкалі. Фашысцкія «Юнкерсы» выраблялі ў небе, што толькі ім хацелася. Выходзячы з піке, яны страчылі з кулямётаў. Адсюль цяжка было вызначыць, што бамбілі фашысты. Мабыць бомбы падалі на паўднёвай ускраіне горада, але выбухі як бы паглушылі, абязвечылі ўсіх нас. Ніхто ўжо і вухам не вёў капітанавых каманд.

Нарэшце, бамбёжка спынілася і капітан пачаў выклікаць па спісу, каму атрымоўваць абмундзіраванне. Надыйшла і мая чарга. Зграб у бярэма вопратку. Пачулася каманда строіцца. Капітан загадаў мне весці ў лазню каманду. Адсюль да лазні было далекавата. Можна было ісці па цэнтральнай Савецкай вуліцы, а можна было і бакавымі. Я павёў бакавымі, бо ў нас з гэтымі клункамі быў такі выгляд, быццам мы з пажару. Сержант, які ішоў па тратуару і наглядаў за нашым строем, загадаў спяваць песню. За гады службы ў арміі ён, мусіць, звык: там дзе строй, там і песня. Але каму было сёння да песні, і я не настойваў, каб спявалі. Мабыць, і сержант зразумеў, што нам не да песні.

Хуценька памыўшыся і абмундзіраваўшыся, я выйшаў збіраць сваю каманду. Разы тры пералічваў у вестыбюлі лазні людзей, але трох чалавек так і не далічыўся. Мо' прыбіліся да якой іншай каманды, бо вельмі цяжка было пазнаць людзей пасля таго, як яны пераапрануліся з цывільнага ў вайсковае. Адно, па чым можна было адрозніць нашых, дык гэта па чырвоных чаравіках. Я такіх, дык ні разу і не бачыў у салдатаў. Абмоткі таксама былі адметныя: цёмна-зялёнага колеру.

Назад з лазні пайшлі па Савецкай. На вуліцы людзей было мала, а тыя, што сустракаліся, быццам вярталіся з могілак пасля пахавання блізкіх і родных.

Я іду ўзбоч свайго строю. Нагі не падлічваю, але салдаты—іх ужо цяпер можна назваць гэтак, самі ідуць у нагу, відаць, вайсковая форма дысцыплінуе. Мне прыходзіць у галаву думка аднесці дадому сваё цывільнае адзенне. Тут жа да дому рукой падаць. Дакладваю сваё рашэнне сяржанту.

— Ідзіце, таварыш афіцэр, аднясіце, з жонкай развітайцеся, а я сам павяду строй.

Толькі мне трэба было павярнуць на сваю вуліцу, як нібы з-пад зямлі выраслі два ўзброеныя цывільныя.

— Грамадзянін, вашы дакументы.

— Якія дакументы?

— Людскія.

Я паляпаў па кішэньках гімнасцёркі, шукаючы сам не ведаю чаго: пашпарт і ваенны білет я здаў у часць, з якой мне не паспелі яшчэ выдаць ніякага дакумента.

— Няма ў мяне ніякіх дакументаў.

— Я так і ведаў, — настаўляючы на мяне вінтоўку, сказаў маладзейшы.

— Я толькі што з лазні... Нас толькі што абмундзіравалі. Мы ішлі строем да казармы, дык я от папрасіўся аднесці дадому барахло сваё. Во яно ў рэчавым мяшку.

— Ведаем, ведаем, не загаварвай зубы,—падазрона гледзячы на мае чырвоныя чаравікі, казаў старэйшы. — Следуй за намі.

Вялі мяне не ў цэнтр горада, дзе можна было сустрэць каго знаёмага і пераканаць рабочых, што я не вораг, а ў раён завода «Пралетарый».

— Куды вы мяне ведзяце?

— Дзе гэтыя твае чаравікі шыліся—у Мюнхене ці ў Берліне?—з кепікамі спытаў другі патрульны.

— Не ведаю. Можа, на фабрыцы «Праца»?

— Бач, гад печаны, нават фабрыку «Праца» ведае. Добра цябе, відаць, нашпігавалі перад тым, як скінуць сюды.

— Адкуль скінуць?

— Мы ж не ведаем, адкуль цябе скінулі. Мабыць, з неба?

— З якога неба?! Што вы пашалелі, хлопцы! — пачаў я здагадвацца, чаму мяне затрымалі.

— Гэта твой Гітлер ашалеў, дык скідае вас.

— Што вы, хлопцы! Я ж свой чалавек. З горада. У рэдакцыі працаваў.

— А каго ты там ведаеш?

Я назваў некалькі прозвішчаў работнікаў, але іх не ведалі патрульныя.

— Бач, гад печаны, і прозвішчы павывучаў. Гэта табе не паможа. Ведаем вашы фашысцкія хітрыкі. Не ты першы і не ты апошні трапляеш у нашы рукі.

Я канчаткова зразумеў, што з гэтымі рабочымі патрулямі жартаваць няма як. Яны сапраўды палічылі мяне за дыверсанта, і як я ні стараўся давесці, хто я такі, ніводнаму слову майму яны не верылі. Ліхаманкава кідаю вачыма па людзях: можа, дзе каго знаёмага ўгледжу, але як на ліха, ніхто не трапляецца.

Мяне ўжо вывелі на Інтэрнацыянальную. Не паспелі мы павярнуць да завода, як пачуўся нейчы знаёмы мне голас:

— Каго і куды гэта вы ведзяце?

Узіраюся і бачу: гэта ж мой былы цесць Андрэй Піліпавіч Леванюк. Стары падымае вочы на мяне і ўзрадавана крычыць:

— Макар! Сынок!

— Андрэй Піліпавіч! Тата! — вырываецца ў мяне.

Патрульныя адводзяць ад мяне рулі вінтовак і прыстаўляюць прыклады да ног, як па камандзе: «Смірна».

— Дзе гэта вы такога дыверсанта злавілі? — пытае з усмешкаю ў патрульных Леванюк.

— А ліха іх разбярэцца, каторыя яны дыверсанты. Бачыце ж, якія чаравікі абуў. Не нашы ж!

Я хуценька расказваю Андрэю Піліпавічу, як усё здарылася, і ён смяецца, гледзячы на патрулёў. Тыя ў пагляддзе яго, мабыць, бачаць дакор.

— Дык мы пойдзем, таварыш сакратар парткома.

— Даўно гэта вы сакратаром парткома сталі? — пытаю я.

— Ды от нядаўна выбралі.

Мы стаім з Леванюком на тратуары, і ён мне расказвае, як бы хочучы апраўдаць пільнасць патрульных, што паводле вестак, якія паступілі ў горад, фашысты выкінулі групу дыверсантаў і шпіёнаў, апранутых у нашу форму. Дык от і мабілізаваны рабочыя каманды на вылоўліванне іх.

— А хіба ў цябе ніякага дакумента няма? — пытае Леванюк.

— Як на тое ліха, усе свае грамадзянскія дакументы здаў у часць, а вайсковых яшчэ не паспелі выдаць.

— А партыйны білет?

Я хапаюся за заднюю кішэню штаноў і намацваю білет: ён сапраўды са мною. Але, мусіць, таму, што партыйны білет я нікому нідзе, апроч партыйных органаў, не паказваў, я і сказаў патрульным, што ніякіх дакументаў у мяне няма.

Андрэй Піліпавіч правёў мяне аж да самай Садовай вуліцы. Па дарозе мы гаварылі пра ўсё, але пра Іру ні ён, ні я ніводным словам не ўспомнілі.

З Садовай было ўжо рукой падаць да казармаў, і я падзякаваў былому цесцю, што ён выбавіў мяне з такой непрадбачанай бяды. Тройчы пацалаваўшыся, як даўнія сябры і сваякі, расталіся. Мабыць, надоўга, калі не назаўсёды.

# ШЛЯХ ВАЕННАГА КІНААПЕРАТАРА

**Перад вамі здымак грозных ваенных год. Крайні справа чалавек у сціплай ваеннай форме — беларускі аператар Іосіф Вейняровіч са сваім нязменным спадарожнікам — кінакамерай — на перадавых пазіцыях за некалькі гадзін да вызвалення Харкава ад гітлераўцаў...**

**З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны І. Вейняровіч разам з іншымі савецкімі кінаапаратарамі ўліўся ў рады мужных абаронцаў нашай Радзімы. Ён стаў дзяліць з імі гора і радасць франтавога жыцця, выкрываючы сродкамі баявой кінапубліцыстыкі нябачанае ў гісторыі варварства фашысцкай ваеншчыны, паказваючы ў дакументальных кінакадрах мужнасць, стойкасць і непахісную веру ў перамогу нашых воінаў.**

**У афіцэрскім шынялі з кінаапаратам на грудзях І. Вейняровіч аб'ездзіў тысячы кіламетраў франтавых дарог, не раз глядзеў смерці ў вочы, стараючыся як мага лепш адлюстраваць на кінаплёнцы баявыя дзеянні савецкіх войск. У цяжкі для нас 1941 год, калі вораг блізка падыйшоў да Масквы, беларускі кінаапаратар даваў для кіначасопісаў шматлікія кадры аб мужных абаронцах савецкай сталіцы; пасля разгрому гітлераўцаў пад Масквой здымаў баі за Мцэнск і, нарэшце, быў закінуты на парашуце ў глыбокі тыл ворага — да народных мсціўцаў Браншчыны. Там яму ўдалося адлюстраваць на плёнку іх смелыя налёты на акупантаў, поўнае небяспекі і трывогі партызанскае жыццё. Потым ён пабываў у злучэннях украінскіх партызан, на чале якіх стаялі Каўпак і Сабураў. Знятыя І. Вейняровічам кадры аб барацьбе народных мсціўцаў супраць акупантаў паслужылі асновай для дакументальнага фільма «У тыле ворага» і былі ўключаны таксама ў карціну «Дзень вайны», над якой працавалі 150 аператараў. Лепшыя кадры партызанскай кінахронікі беларускага аператара былі адзначаны Сталінскай прэміяй.**

**І. Вейняровіча добра ведалі і беларускія партызаны — вясной 1943 года ён разам з аператарамі М. Сухавай і М. Фраловым здымаў баявыя аперацыі партызанскіх брыгад Жалезняка, Лабанка, Дуброўскага, Мельнікава. Кадры гэтыя ўвайшлі ў паўнаметражны фільм «Народныя мсціўцы».**

**У адным страі з савецкімі воінамі-вызваліцелямі І. Вейняровіч уступіў у 1944 годзе ў разбураны, але няскораны ворагам родны Мінск, прымаў удзел у здымках парада партызанскай арміі Беларусі. Такі баявы шлях беларускага апаратара, які пакінуў для будучых пакаленняў шматлікія кінакадры — яркія старонкі барацьбы і перамог нашага народа.**

**Г. СІЦЯК.**

Галоўны рэдактар Нічыпар ПАШКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Янка ШАРАХОЎСКІ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва — 3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

АТ 274

Друкарня імя Сталіна.